# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 52 (1650) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 27 СНЕЖНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.

## 70 МЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

### ЧЫРВОНАГВАРДЗЕЕЦ

Міхал Таруняк нарадзіўся 29 верасня 1893 г. у рабочай сям'і ў Драгічыне. З 13-ці год пачаў працаваць, адразу выявіліся ў яго здольнасці ў слесарскім рамястве. Да 1913 г. працаваў у Драгічыне, потым выехаў у Хельсінгфорс (сённяшнія Хельсінкі ў Фінляндыі) і там стаў на работу ў філіяле славутага петраградскага Пуцілаўскага завода. У гадах 1914-1918 актыўна дзейнічаў у Польскай сацыялістычнай партыі (лявіцы). Прымаў актыўны ўдзел у Лютаўскай рэвалюцыі ў Хельсінгфорсе, між іншым, здабываў арсенал у Свеаборгскай крэпасці. У верасні 1917 г. яго накіравалі ў Пскоў. Адбіваў ён наступ войск генерала Карнілава на рэвалюцыйны Петраград. У Кастрычніцкую рэвалюцыю здабываў гмах пошты ў Петраградзе. Потым змагаўся супраць войск Краснова, якія намагаліся здабыць сталіцу.



У маі 1918 г. М. Таруняк вярнуўся на радзіму. Працы ў разбураным вайною Драгічыне не было, і ён падаўся ў Влацлавак, дзе стаў працаваць слесарам. З 1920 па 1926 год быў беспрацоўным. Належаў да Камуністычнай партыі Польшчы аж да паўстання і аж да роспуску, вельмі актыўна ў ёй дзейнічаў. У 1926 годзе быў арыштаваны і засуджаны на 6 год турмы, сядзеў у Варшаве і Вронках.

Пасля вызвалення М. Таруняк актыўна ўключыўся ва ўстанаўленне народнай улады і сацыялістычнае будаўніцтва, у гадах 1945-1948 дзейнічаў у Польскай рабочай партыі, потым — у ПАРП.

Урад Народнай Польшчы адзначыў М. Таруняка высокімі ўзнагародамі, таксама Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў яго Ордэнам Чырвонай Зоркі.

Б. Нікіцюк



Ізабела Марцыян. „Світанне" — двухасновавы габелен.

## Песні яе сэрца

Неспакушаны праходжы, які незнарокам заўважыў восенню плакат, інфармуючы аб выстаўцы мастацкіх тканін Ізабелы Марцыян у Беластоцкім Арсенале, мог бы абыякава прайсці каля яго, не западозрыўшы нават, што губляе ў гэты момант. Плакат быў шэры, скромны, без колераў і аўтарскіх партрэтаў. Але ў гэтым была якраз уся яна, мастачка незвычайнага таленту, незвыклая ткачыха і вельмі сціплы чалавек. Тады мне падумалася: „Сапраўды, вялікае не мусіць крычаць аб сваёй вялікасці — гэта і так усім відаць...".

Ізабела Марцыян нарадзілася ў Стралковіцах (СССР). Ад 1955 да 1960 вучылася на тэкстыльным аддзяленні Вышэйшай

(Працяг на стар. 3)



Спакойных Радасных Свят

зычыць рэдакцыя „Нівы"

## АДЧУВАННЕ АБАВЯЗКУ

### РАЗМОВА З НАРОДНЫМ ПІСЬМЕННІКАМ БЕЛАРУСІ ЯНКАМ БРЫЛЕМ

**Пытанне:** Вы не першы раз у Польшчы. Скажыце, калі ласка, якая мэта Вашага апошняга прыезду і якія ў Вас уражанні ад кантактаў з нашай краінай?

**Адказ:** Гэты мой прыезд з'яўляецца чатырнаццатым візітам у Польшчу. На гэты раз я прыехаў па запрашэнню ПАКСу. Хачу паясніць, што з'яўляюся лаўрэатам прэміі імя Петшака. Прэмію гэту я атрымаў за пераклады польскай літаратуры на беларускую мову. Што датычыцца ўражанняў, дык хацелася б падкрэсліць, што кожны прыезд пакідае ў мяне непаўторны след у памяці. Зрэшты, не толькі ў памяці. Я, як вядома, напісаў дзве кнігі-эсэ. „Вачыма друга" і „Польскі дзённік", у якіх стараўся выявіць і свае ўражанні, і свае ацэнкі, і свае думкі, звязаныя з Народнай Польшчай. Праўда, калі сёння пераглядаю напісанае аб Польшчы, дык становіцца як бы і сорамна за такія ці іншыя наіўнасці, за такія ці іншыя плыцізны. Ну, але гэта ж свайго роду непазбежнасць. Пісьменнік павінен мець крытычныя адносіны да напісанага. Можа, варта сказаць і тое, што, між іншым, у эсэ „Эха заўсёды са мною" пісаў я аб такіх маіх сябрах, як Кручкоўскі, Бранеўскі, Пшыбось. Як шкада, што ўжо ніводнага з іх няма сярод жывых. А, вяртаючыся да ўражанняў, хацелася б сказаць, што характарызуюцца яны разнароднасцю. Для прыкладу скажу, што калісьці я прыехаў у Польшчу з Максімам Танкам на з'езд перакладчыкаў, пасля быў у Польшчы з Алесем Ганчаром з прычыны 30-годдзя пачатку другой сусветнай вайны. Быў таксама ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў, якая прыехала ў Польшчу пасля вядомага вашага кастрычніка, калі ўзнаўляліся нашы кантакты і супрацоўніцтва. Бываў я і ў складзе ветэранска-камбатанцкіх дэлегацый пісьменнікаў, якія змагаліся з фашызмам. Зразумела, што кожны з гэтых, такіх розных па характару прыездаў выклікаў розныя тыпы ўражанняў, перажыванняў і роздумаў.

**Пытанне:** Вядома мне, што былі Вы і на маёй роднай Беласточчыне. Хацелася б пачуць Вашы рэмінісцэнцыі на гэту тэму.

**Адказ:** Так, гэта спецыяльны

(Працяг на стар. 2)

НА мяжы

# АБ ПЕРШЫМ ДНІ АКУПАЦЫІ /1/

Калі да нас прыйшлі немцы, дакладна не памятаю. Сталася гэта вельмі хутка ад моманту выбуху вайны. Памятаю, што савецкія падраздзяленні адчайна кідаліся то на ўсход, то на поўнач, а пыл, узняты войскамі па ўсіх дарогах, засланяў сонца. Немцы ў Бандарах паявіліся вельмі хутка. І вось з гэтага першага дня акупацыі захаваліся ў маёй памяці некаторыя абразкі.

## АБРАЗОК ПЕРШЫ

На ўзгорку за мостам, метраў у дваццаці ад вёскі, ляжыць савецкі салдат. Упаў з грузавіка, і цяжкая машына пераехала яго па нагах, ломячы іх дашчэнту. На чале са старым жыхаром нашай вёскі Васілём К. мы ідзем да салдата. Васіль К. тлумачыць нам, што немцаў вельмі добра ведае, бо меў з імі дачыненне ў 1915 годзе. „Немцы, — гаворыць, — гэта культурны народ. Яны разбіраюцца не толькі ў тым, як ваяваць, але і зямлю гараць умеюць лепш, чым мы гарэм. Пабачыце".

Падыходзім да салдата, каля яго стаяць людзі з Лукі і Слабодкі. Салдат страшэнна мучыцца. У яго акрываўленыя не толькі нагавіцы, боты, але і горла. Аказваецца, што хацеў застрэліцца, але вінтоўка доўгая, і ён не мог падставіць сабе дула пад бараду. Зрэшты, хтосьці яму гэтую вінтоўку вырваў з рук. Тады салдат выцягнуў ножык і спрабаваў падрэзаць сабе горла. Крыху парэзаў цела, потым нехта яму вырваў з рук. Салдат енчыць і просіць:

— Ребята, добейте меня! Добрые люди, помогите, убейте!

Васіль К. тлумачыць усім, што немцы — народ культурны, што яны возьмуць салдата ў шпіталь і вылечаць яго. Каб толькі як найхутчэй прыйшлі.

І раптам з-за ўзгорка паяўляюцца спачатку салдацкія, а пасля і конскія галовы. Праз момант тры ездакі стрымгалова пад'язджаюць да грамады і капытамі зарываюцца з разбегу ў пяску. Васіль К. знімае шапку, выходзіць наперад з натоўпу і кажа:

— Гут моргэн, панове!

Пярэдні немец імгненна выхоплівае з кабуры пісталет і тры разы страляе ў савецкага салдата. Салдат падскоквае, пасля паварочваецца на бок, корчыцца і нерухамее. Немец хавае пісталет, хапае рукаятку бізуна, які вісіць на кісці яго рукі, і лупіць Васіля К. бізуном праз галаву і плечы і крычыць дзіка: „Лёўс нах хаўзэ!"

Усе мы стрымгалова кідаемся ў бок вёскі. Апярэджваем Васіля К., які таксама бяжыць як толькі можа хутка, але яго старыя ногі не вельмі яго слухаюцца. Мы азіраемся і бачым, што немцаў пад узгоркам няма. Мабыць, павярнулі назад, дык чакаем Васіля К. і разам з ім дабягаем да вёскі.

Васіль К. моцна дыхае, што хвіліну мацае сябе па плячах і па шыі. Адхіляе кашулю і знімае шапку. Мы глядзім і бачым моцны чырвоны рубец. Васіль К. аглядаецца за сябе, глядзіць за мост і пытае нас:

—Дзе яны?

— Не ведаем, дзеду, як мы беглі, то яны невядома куды падзеліся. Відно, паехалі назад у Леўково або ў Нараўку.

Васіль К. апускаецца на лаўку перад сваёй старэнькай хаткай, каля яго сядаем і мы.

— То як жэш так, дзеду? — пытае нехта. — Вы ж гаварылі, што немцы вельмі добры людзі і што чырвонаармейца вылечат. Ну, то якія ж яны е напраўду?

Васіль К. доўга маўчыць. Відаць, пытанне яму не вельмі падабаецца. Круціцца на месцы. Ізноў пальцамі мацае крывавы рубец, урэшце гаворыць ціха з нейкай жаласцю і крыўдай у голасе:

— Хай іх немач спаліт! Такого мне немцы не рабілі. Я ні толькі такого ні бачыў, але і ні чуў такого. Што я тут магу сказаць? Гэто ні тыя самыя немцы. Ні тыя самыя! — Ізноў пальцы Васіля К. папаўзлі да рубца, а нам усім робіцца трывожна і боязна. І шкада нам моцна і Васіля К., і чырвонаармейца, і пачынаем гаварыць аб тым, што трэба ўзяць лапаты, выкапаць магілу і пахаваць салдата па-чалавечы.

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 1)

# АДЧУВАННЕ АБАВЯЗКУ

раздзел маіх уражанняў і ўспамінаў. Калі не памыляюся, 1956 год быў пачаткам дзейнасці Беларускага таварыства і „Нівы". Тады рэдагавалі гэту газету маладыя людзі, якія горача верылі ў слушнасць распачатай справы. Памятаю першыя нумары „Нівы". Не маглі яны не выклікаць узрушанасці і эмацыянальнасці. Запомнілася сустрэча ў Гарадку з мясцовым насельніцтвам і харыстамі, якімі кіравала энергічная пані Мушынская. Мы тады былі ў вас разам з Піліпам Пестраком ды старшынёй Белоксу Верасавым, і, як гэта гаворыцца, не прыехалі з пустымі рукамі. Прывезлі так званы „камбайн", які складаўся з тэлевізара, радыё і праігрывальніка. Падарылі таксама хору мужчынскія народныя кашулі і жаночыя блузкі, а таксама трыо цымбал. Запомніўся на ўсё жыццё канцэрт гарадоцкага ансамбля, вялікі прыём і танцы. Я тады яшчэ мог вальсаваць і рабіў гэта з мілымі дзяўчатамі і маладзіцамі з вялікай ахвотай і энтузіязмам. Прызнаюся, шкадую, што мне дагэтуль не ўдалося больш грунтоўна паездзіць па Беласточчыне, пазнаёміцца з беларускімі сялянамі, вучнямі, інтэлігенцыяй, зямлёй пісьменнікаў.

**Пытанне:** Ад пачатку 1987 года „Ніва" зноў ідзе ў Савецкі Саюз. Можа захочаце ацаніць тэматыку, праблематыку і стылістыку нашага тыднёвіка.

**Адказ:** „Ніва" сама па сабе — з'ява арыгінальная. Мае яна на сабе адзнакі непаўторнасці, рэгіяналізму. Моцна яна асаджана ў мясцовай моўнай і культурнай традыцыі. Несумненна, на стылістыку і мову „Нівы" ўплывае і польская мова. Аднак у асноўным мова яе харошая, каларытная. Прыемна, што бываюць у „Ніве" публікацыі рознага тыпу: і рэпартажы, і літаратурныя творы, і літаратурныя і фальклоразнаўчыя артыкулы. Цікавіць мяне не столькі як чытача, але як дзядулю дадатак да „Нівы" „Зорка". Хачу падкрэсліць, што выкарыстоўваю „Зорку" ў выхаванні сваіх унукаў. Аднак вядома, што няма нічога і нікога настолькі добрага, каб нельга было стаць лепшым. І таму хацелася б пажадаць вам большай вострасці, большай адточанасці. Хачу падкрэсліць і высокую каштоўнасць Беларускіх календароў, у якіх нямала добрай інфармацыі, і добрых літаратурных твораў, і добрага гумару. Аднак ёсць і мінусы. Адносяцца яны да якасці паперы, друку, тэхнікі ілюстрацый. Хацелася б спадзявацца, што ў гэтай галіне становішча паправіцца.



Янка Брыль і Алесь Барскі на сустрэчы ў ГП БГКТ.
Фота Я. Чэрнякевіч

**Пытанне:** Скажыце, калі ласка, аб сваіх кніжках, перакладзеных на польскую мову.

**Адказ:** Думаю, што трэба пачаць ад Ст. Фурманіка, які пераклаў „У Забалоцці днее". Зразумела, што я быў вельмі рад. Самі ведаеце, што значыць для маладога пісьменніка, калі яго перакладаюць на чужую мову. Аднак мушу сказаць, што Фурманік перакладаў маю кніжку не з арыгіналу, а з ненайлепшага рускага перакладу — і таму эфект быў далёкі ад добрага. Аднак я яшчэ раз хачу падкрэсліць, што гэта была падзея ў маім жыцці. Вядома, што для мяне Польшча — гэта не першая-лепшая замежная краіна. У Польшчы прайшло маё дзяцінства і мая маладосць. За Польшчу я змагаўся з немцамі ў 1939 годзе, і таму я не мог не даражыць і не ганарыцца тым, што ў гэтай краіне выйшла мая кніжка.

Пазней польскія пісьменнікі пачалі перакладаць мае кнігі з арыгіналу. І тут перш за ўсё хачу ўспомніць майго земляка Мацея Канановіча, які пераклаў розныя мае творы і выдаў іх у кнізе „Patrzeć na trawę". Я вельмі задаволены якасцю перакладаў Канановіча. Пасля Эва Раеўская таксама вельмі цікава пераклала зборнік маіх апавяданняў, якія выйшлі пад загалоўкам „Świat daleki i bliski". Добра пераклала на польскую мову беластаччанка Анна Сабэцкая маю кнігу „Золак убачаны здалёк". Далей хачу адзначыць нядрэнны пераклад Сакрата Яновіча маіх апавяданняў пад загалоўкам „Witraże". Не магу не ўспомніць добрым словам Яна Гушчу, які пераклаў вельмі цікава маю кнігу „Ніжнія Байдуны". Актуальна перакладае мае творы Чэслаў Сенюх. Я толькі што аўтарызаваў яго пераклад, які мне вельмі падабаецца. На перакладчыкаў мне пашанцавала. З жалем мушу сказаць, што многія з іх ужо не жывуць. Няма ўжо сярод жывых Канановіча, Гушчы, Сікірыцкага.

**Пытанне:** Скажыце, што чуваць у беларускай літаратуры.

**Адказ:** Жыве і развіваецца. Перш за ўсё, многія забытыя або рэпрэсіраваныя ў 30-тыя гады пісьменнікі вяртаюцца ў беларускую літаратуру. У хуткім часе павінен выйсці ў свет зборнік вершаў Алеся Гаруна — паэта, які каля шасцідзесяці гадоў у нас не выдаваўся. Думаем аб поўным выданні твораў Максіма Гарэцкага, Міхася Зарэцкага, Уладзіміра Дубоўкі, Язэпа Пушчы, Ларысы Геніюш. Трэба вярнуць нашай літаратуры схаваныя або забытыя скарбы.

Новым у нашым літаратурным жыцці з'яўляецца, між іншым, і тое, што публічна першага лістапада 1987 года па ініцыятыве групы маладых пісьменнікаў быў адзначаны задушны дзень — Дзяды, у час якіх быў зачытаны спісак ахвяр культу асобы. Калі аб гэтым сёння гаворым, дык хочам споўніць доўг перад памёршымі. Хочам даць сведчанне маральнай

(Працяг на стар. 4)

 

# Песні яе сэрца

(Працяг са стар. 1)

мастацкай школы ў Лодзі, там жа ў 1961 годзе абараніла дыплом. Аднак усё сваё сталае, творчае жыццё аддала яна Беластоку.

І таму, мабыць, у творчасці сваёй ткачыха абаперлася на традыцыі падляшскіх дзвюхасновавых дываноў. Яна пайшла яшчэ далей і стварыла ўласную тэхніку ткання, даказваючы, што тканіна неабавязкова мусіць быць плоская, — і ўпрыгожыла яе выпуклымі элементамі, ткучы рэльефныя, як бы разьблёныя творы, якія, калі б не былі зроблены з нітак, можна было б смела прыпісаць някепскаму скульптару.

Калі адна з паклонніц таленту Ізабелы Марцыян, немаладая, сівая жанчына, прыглядзеўшыся да выстаўленых тканін, ні то са здзіўленнем, ні то з нейкім пярэпалахам усклікнула: „Гэта ж катаржная праца!“, ткачыха толькі ўсміхнулася і адказала нягучна: „Люблю гэта“.

Свае адносіны да працы, да творчых здзяйсненняў мастачка патрапіла выказаць толькі гэтымі двума сціплымі словамі. Але колькі ж у іх глыбокага сэнсу! Колькі працавітых дзён і колькі неспакойных начэй, колькі замілавання і сатысфакцыі, калі паслухмяным пальцам удаецца вычараваць тое, што спявае ў душы мастачкі...



Фрагмент габелена І. Марцыян „Каштоўнасці“.

А спявае ў ёй то радасць, то журба. І ў залежнасці ад гэтага песні Ізінага сэрца бываюць то сарамліва-пяшчотныя, то ўсеабдымна-ласкавыя, то больш паважныя, маркотна-самотныя. „Выбраць радасць“ (1986 г.), але як? Жыццё ж мае столькі праяў! Як выбраць тут з розных настрояў і колераў радасці — толькі адну, сваю?..

У краіне мараў мастачкі заўсёды цёпла. Цёпла нават тады, калі мары гэтыя не здзяйсняюцца. Тканіна „Святло“ (1986 г.) мае форму вялікага кола. Шэры, халодны, здавалася б, зімовы пейзаж. Шэрыя елкі, пустка. А з левага боку ў гэтым пейзажы — малюсенькае кола. Там таксама зіма і елкі. Ды толькі ёсць там яшчэ парка маленькіх чалавечкаў, закаханых. І ў гэтым маленькім коле мастачка змясціла свае мары. У вялікім жа коле ёсць усё тое ж — і зіма, і елкі, ды толькі... няма закаханых. Шэра, пуста, зімова, і ўсё ж такі... цёпла! А можа гэта грэе святло Ізінай надзеі?!

Клімат пагоды і спакою прамянее з большасці прац Ізабелы Марцыян, хаця нялёгка ўпарадкаваць думкі і настроі, выкліканыя імі. Тут ява перапляпаецца з фантазіяй, і момантамі цяжка нават адрозніць, што праўда, а што — мары.

Але няма, бадай, такога, каму б не падабаліся гэтыя тканіны Яны не могуць не падабацца! У іх столькі лёгкасці і дасканалай гармоніі, што, здаецца, дастаткова мастачцы дакрануцца да кросен, як адтуль выйдуць быццам па канвееры, гэтыя нязвыклай прыгажосці габелены незалежна ад таго, ці вельмі каляровыя яны, ці адна填тныя, шэрыя. Толькі найбліжэйшыя ведаюць, якая мазолістая гэта праца. Колькі разоў даводзіцца пароць вытканы элемент (а здаецца, што і ўсю тканіну), бо нешта выйшла не так, як хацелася б. І тады ізноў нешта перарабляецца, змяняецца, паляпшаецца, са старога ствараецца новае, а вочы мастачкі гараць трывожным, неспакойным агнём, глядзяць некуды ў сябе, а часамі ўпіваюцца ў вытканы ўзор і тады кудысьці аддаляюцца, блукаюць, нечага шукаюць, і ўся постаць яе становіцца як бы непрысутная.



Дзвюхасновавы габелен Ізабелы Марцыян „Крыніца“ (1970 г.) атрымаў найбольш узнагарод.

Але трэба ўбачыць гэтыя вочы тады, калі выйшла! Тады яны лагодныя і спакойныя, і толькі рэшткі нейкага далікатнага бляску сведчаць аб тым, што яшчэ не ўсё супакоілася, не ўсё адлягло. Ткачыха яшчэ раз спаглядае на вытканае сваімі рукамі: паўколле ўстаючага багровага сонца („Світанне“, 1986 г.), апошнія слязінкі дажджу, зялёную, жывую зямлю, па якой віецца, клубіцца жыццё, — і сэрца яе напаўняе вялікае шчасце.

Колькі такіх габеленаў можна выткаць у год? Ну два — гэта многа. А Іза Марцыян толькі за апошнія два гады стварыла іх аж 12! Не ўставала амаль ад кроснаў. І колькі думак сваіх, рэфлексій, сумненняў, успамінаў удалося перадаць ёй пры дапамозе нітак — падстававога матэрыялу яе творчасці... Вось успамін з дзяцінства, прысвечаны „той, што калыхала яе ў дзяцінстве“ („Калыханка“, 1982 г.). На першы погляд здавалася б, што нельга ўлажыць тут паасобныя элементы, нейкія геаметрычныя фігуркі дзіўнай формы, гэтыя грушкі, колы, плямкі, — у адну цэласць з вуснамі, якія ткачыха памясціла ў сярэдзіне працы. Але, прыгледзеўшыся да тканіны і ўдумаўшыся, прыходзіш да вываду, што ва ўсім гэтым ёсць несамавітая гармонія і менавіта так выглядае калыханка: бязладная, фантастычная, аб усім патроху, далікатная, чулівая. І ўжо напэўна прымусіць яна дзіця заснуць!

Часамі новы твор мастачкі паўстае ў выніку нейкага аднаго здарэння. Так было з „Адным днём лета“ (1974 г.). Калісьці, будучы ў лесе, Іза сарвала лілію, не ведаючы, што гэтая кветка знаходзіцца пад аховай. Вельмі перажыла гэта і вырашыла пасля перапрасіць кветку, увекавечыўшы яе на габелене...

Аб сабе Ізабела Марцыян гаварыць не любіць, ды, шчыра кажучы, і не ўмее. Аб сабе яна толькі сказала: „Мастак жыве ў сваіх творах!“ Але гэтага і не трэба было гаварыць. Думаю, што гэта зразумее кожны, хто ўбачыць тканіны Ізабелы Марцыян не толькі ў Беластоку, але нават у Лодзі, Варшаве ці Чыкага.

**Ада Чэчуга**

## Наша пошта

Chciałabym podzielić się z redakcją i czytelnikami „Niwy" moimi wrażeniami, jakie odniosłam zwiedzając Ziemię Białostocką. Moim przewodnikiem po Białostocczyźnie był — poznany rok temu na turnusie rehabilitacyjnym w Jeleniej Górze — Andrzej Gawryluk z Bielska Podlaskiego. Na jego zaproszenie i z jego pomocą pokonałam trudy tak dalekiej podróży — mieszkam w województwie gorzowskim. Piszę po polsku, ponieważ język białoruski jest mi nieznany. Narodowość białoruska, wśród której mieszkałam przez siedem dni, sprawiła, że miałam namiastkę zagraniczności — bardzo interesujące to uczucie. Znam język rosyjski, dlatego orientowałam się z grubsza w znaczeniu niektórych słów białoruskich, jednak nie zdołałam coś powiedzieć w tym nowo poznanym języku.

Pierwszym czasopismem białoruskim, z którym zapoznałam się z pomocą Andrzeja, była gazeta tygodniowa „Niwa". Dowiedziałam się z niej, jaka tematyka jest poruszana na jej łamach. I tak „Szlacham hadou" — cykl publikacji Mikołaja Hajduka zafrapował mnie swym interesującym ujęciem także historycznej przeszłości krainy białostockiej. W korespondencjach terenowych wiele ciekawego dowiedziałam się o tutejszym życiu kulturalnym i o problemach społecznych tutaj. Stałe rubryki, takie jak „Sercajka", sporo dają do myślenia o sprawach i kłopotach życiowych nie tylko młodzieży. Nie nudno czyta się „Sonnik" albo rubrykę „Z majoj zwanicy", także „Adhałoski", czy artykuliki o ochronie przyrody.

W Widowie pod Bielskiem Podlaskim, w mieszkaniu Andrzeja zobaczyłam po raz pierwszy w swym życiu białoruskie wyroby tkackie. Zobaczyłam portrety pisarzy białoruskich — Jakuba Kołasa, Zmitraka Biaduli, Maksima Bahdanowicza. Andrzej długo opowiadał mi o każdym z nich, o ich twórczości i kolejach życia. Bardzo spodobał mi się Bielsk Podlaski ze swym siedemnastowiecznym ratuszem w rynku. Zwiedziłam Hajnówkę, pod ścianą Puszczy Białowieskiej. Imponujące wrażenie wywarła na mnie nowa cerkiew, wzniesiona w Hajnówce. Byłam w Liceum Białoruskim. Zwiedziłam budujące się Muzeum Kultury Białoruskiej. W Białowieży natomiast zwiedziłam zabytki, jakie ocalały, i poznałam wielce sympatycznego Piotra Bajko, korespondenta „Niwy", który jest doskonałym przewodnikiem po Puszczy i znawcą przeszłości tej niezwykłej dla mnie ziemi. Pan Bajko przyjął mnie bardzo gościnnie, po białorusku, i będę wspominała tego znakomitego Białorusina. Poznałam również Borysława Rudkouskina, też współpracownika „Niwy", entuzjastycznego naturalistę i bojownika o ochronę zasobów przyrodniczych w regionie, a także zabytków kultury materialnej Białorusinów. Dużo nowego dla siebie dowiedziałam się z rozmów z nim.

Jestem szczęśliwa, że dane mi było zwiedzić województwo białostockie z jego kulturą białoruską i prawosławiem. Było to dla mnie wielkim przeżyciem i — miłe wrażenie na resztę mojego życia.

*Krystyna Juraszek*,
Gorzów Wielkopolski



 

# БЕЛАРУСІКІ

Huszcza Jan, Wiersze białoruskie (Wybór przygotowanej do druku antologii poezji białoruskiej). Życie i Myśl nr 4, s. 30—44.

Iłarion, metropolita, Słowo o prawie i łasce (w), fragm. Tł. Włodzimierz Mokry. Tygodnik Powszechny 1982, nr 48, s. 5.

Inwentari magnatskich władienij Biełorussii XVII—XVIII ww. Władienije Smorgoń, Mińsk 1977. Rec. Żytkiewicz Leonid, Studia Źródłoznawcze t. 28, 1983, s. 250—254.

Istoria Biełorusskoj SSR w 5-ti tomach. T. 1. Pierwobytnoobszczynnoje obszczestwo na tierritorii Biełorussii Epocha fieodalizma, Mińsk 1972. Rec. Kosman Marceli, Kwartalnik Historyczny 1973, nr 3, s. 708—711.

Istorija biełorusskoj sowietskoj litieratury, Mińsk 1977. Rec. Niedziela Zdzisław, Ruch Literacki 1978, z. 4/5, s. 396—398; Poźniak Telesfor, Slavia Orientalis 1979, nr 1, s. 94—96; Panasiuk Nadzieja, Przegląd Humanistyczny 1979, nr 5, s. 143—146.

Istorija Biełorusskoj SSR, Mińsk 1977. Rec. Wojna Romuald, Kwartalnik Historyczny 1980, nr 3/4, s. 692—700.

Iz istorii krestianstwa Biełorussii. Mińsk 1978. Rec. Groniowski Krzysztof, Roczniki Dziejów Społecznych i Gospodarczych 41, 1980, s. 167—169.

Janiak Bronisław, Formy 3. sg. i pl. praes, na ć i w białoruskiej gwarze okolic Sokółki. Studia z Filologii Polskiej i Słowiańskiej (t) 17, 1978, s. 253—254.

Janiak Bronisław, Protezy przed samogłoskami nagłosowymi w gwarach wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. Acta Baltico-Slavica t. 16, 1984, s. 147—158, mapa.

Jankowska Grażyna, Klasycy białoruscy w ręku polskiego czytelnika. (M. Bohdanowicz, J. Kupała, J. Kołas). Osnowa nr 7/8, s. 151—153.

Jankoùski Mikoła, Paetyka biełaruskich prykazak. Mińsk 1971. Rec. Pado Anna, Literatura Ludowa 1976, nr 6, s. 50—53.

Jankoùski Mikoła, Paetyka biełaruskich prykazak. Mińsk 1971. Rec. F.S., Slavia Orientalis 1974, nr 1, s. 133—134.

Janowicz Sokrat, W sprawie Białorusinów. (Wokół „Polski jakiej nie znamy"). Życie Literackie 1966, nr 22, s. 11.

Janowicz Sokrat, Białorusini na Białostocczyźnie. Kamena R. 33, 1966, nr 15, s. 1, 7.

Janowicz Sokrat, Targ, Wypadek, Poranek, tł. z białor. Edward Redliński. Życie Literackie 1968, nr 3, s. 6.

Janowicz Sokrat, Do mojego syna, tł. z białor. Leszek Kożuszko; Odwiedziny, Sen, tł. Edward Redliński; Na urlopie, tł. Wiktor Rudczyk. Kontrasty 1968, nr 4, s. 26.

Janowicz Sokrat, Noc poślubna, Wesele, tł. z białor. Edward Redliński; Jeden raz w roku w Garbarce, Świąteczny dzień 1945 roku, tł. Leszek Kożuszko. Kontrasty 1970, nr 5, s. 8—9.

Janowicz Sokrat, Piszę w języku mego dzieciństwa, rozm. przepr. Zbigniew Ślączka. Konstrasty 1970, nr 4, s. 8—9, il.

Janowicz Sokrat, Miasto, Dyrektor, W izbie wytrzeźwień, opow., tł. z białor. Wiktor Woroszylski. Tygodnik Kulturalny 1972, nr 21, s. 7.

Janowicz Sokrat, W drodze, tł. Wiktor Woroszylski. Kamena 1972, nr 18, s. 4.

Janowicz Sokrat, Pomnik, tł. z białor. Maciej Józef Kononowicz; Wielkanoc 1971, Chutor, On i ona, tł. Jerzy Litwiniuk; Bławatek, tł. Jan Huszcza, Il. Nina Węgrzynowska, Argumenty 1972, nr 23, s. 8.

Janowicz Sokrat, Kilka uwag o literaturze białoruskiej i jego recepcji w Polsce Ludowej. Studia Polono-Slavica-Orientalia. Acta Literaria 1975, t. 2, s. 199—211.

Janowicz Sokrat, Białostockie w białoruskiej literaturze radzieckiej. Warmia i Mazury 1977, nr 11, s. 4.

Janowicz Sokrat, Lipiec 1971 roku w Warszawie, Przypadkowa rozmowa, tł. Jerzy Plutowicz, Il. Daria Jeśmanowicz, Tygodnik Kulturalny 1977, nr 50, s. 9.

P.C.



## Свойскія малюнкі



*Старасельцы. Мал. Уладзіслава Петрука.*

## ПОГЛЯДЫ

# КУЛЬТУРА — ГЭТА ШЧАСЦЕ

Некаторыя чытачы, можа, памятаюць палеміку на тэму універсалізму культуры? Мой тэзіс быў такі, што мастацтва ды наогул культура мае такія самыя вартасці ў цэлым свеце і незалежна ад таго, хто культуру ствараў і стварае. Важна, каб перадавала яна мастацкую, культурную праўду пра чалавека. І яшчэ — няма такіх культур, якія намагаліся б зніштожыць адна адну, але, разам з тым, трэба памятаць, што для развіцця кожнае культуры патрэбны спрыяльныя гэтаму развіццю ўмовы. Без такіх умоваў трэба забыць пра развіццё культуры.

У сорак восьмым нумары часопіса „Культура" за 1986 г. я трапіў на вельмі цікавы даклад прафесара Багдана Сухадольскага, з якім выступіў ён на сходзе Еўрапеўскага культурнага аб'яднання ў Белградзе 30 верасня т.г. Думаю, што гэты маладаступны тэкст варта перадаць на старонках „Нівы" таксама і таму, што шмат якія думкі гэтага выдатнага вучонага могуць датычыць пытанняў развіцця беларускай культуры ў нашым Беластоцкім краі, ва ўмовах Польшчы.

Цяпер у свеце наглядаем валавую цывілізацыю, г.зн. стандарызацыю культурнага ўзроўню быту; навука і тэхніка ўсюды больш-менш такая самая, усякія машыны і патрэбы чалавека, выгодна жыць — таксама. Гэта ліквідуе разнастайнасць культур, як рухавіка развіцця. Калі свет зробіцца аднолькавым, пагражае яму нерухомасць у сваім далейшым развіцці. Уся праблема ў тым, каб агульнасусветнае не глушыла арыгінальнае, дакладней: утылітарнае. Бо, для прыкладу, калі ва ўсім свеце запануе адна культура, дык гэта не будзе крок наперад. Адначасна культура Еўропы зрабілася вельмі своеасаблівай, перш за ўсё таму, што дала яна вялікі штуршок развіццю ўсяго чалавецтва. Яна ўжо разгортваецца як бы сама па сабе, жывіцца толькі сваімі сокамі. І гэта таксама нядобра. Мы зусім адарваныя ад вялікай кітайскай філасофіі, прыкладна кажучы, або ад багатай культуры Індыі.

Знамянальнае і тое, што наглядаецца зварот да рэлігійна-метафізічнай трактоўкі жыцця, што перашкаджае ўзнікненню шырэйшай універсальнай культуры. Пашыраецца мусульманскі фанатызм у Іране. Нараджаюцца іншыя фанатызмы, у іншых краінах, разбіваючы свет на кавалкі як быццам (беручы пад увагу тое, што не будзе адзінства паміж рознымі рэлігіямі свету).

Самае важнае, каб стварыць новую цывілізацыю! Адукацыю чалавека трэба тады пачынаць ад малога. Сучасная школа кладзе вучням у галавы мноства ўсякіх ведаў, але не вучыць яна яго, як трэба жыць і як разумець жыццё. Вучань зусім не ведае пра тое, як жывуць і разумеюць жыццё людзі розных культураў свету.

Мы пішам пра захаванне беларускасці, каб не забыць яе і ўтрымаць разнастайнасць Беластоцкага краю.

Як мы разумеем прагрэс? Разумеем яго велічынямі даходаў на душу насельніцтва, катэгорыямі тэхнічнага і гаспадарчага поступу наперад. А гэта памылка! Прагрэс трэба разумець не толькі лікамі долараў, якія дае

(Працяг на стар. 11)

(Працяг са стар. 2)

# АДЧУВАННЕ АБАВЯЗКУ

перабудове, якая, дзякуючы ініцыятыве Гарбачова, пачынае быць новай каштоўнасцю, новай якасцю нашага жыцця і новай нашай магчымасцю. Не можам яе не выкарыстаць.

Ну, гэта мінулае, якое вяртаем сучаснасці. Што датычыцца нашай сучаснай прозы, дык вядомыя сёння свету такія празаікі, як Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч, Іван Мележ і многія, многія маладыя празаікі. Я тут хацеў бы паўтарыць ужо сказаныя мною словы: „Аб нашай прозе можна гаварыць, а можна і памаўчаць, бо ўжо аб ёй людзі гавораць".

Не можа не цешыць і стан нашай сённяшняй паэзіі. Хто ж не ведае не толькі ў нас, але і ў Польшчы, Максіма Танка? Шырока вядомы паэт старэйшага пакалення Піліп Панчанка. Цешыць плеяда паэтаў сярэдняга пакалення: Барадулін, Бураўкін, Гілевіч, Вярцінскі. Моцна абнадзейваюць маладзейшыя: Анішчыц, Разанаў і многія зусім маладыя, якія толькі ўваходзяць у літаратуру, а ўжо маюць свой арыгінальны паэтычны твар і ўласны почырк.

**Пытанне:** Што можаце сказаць аб сваім уласным пісьменніцкім лёсе?

**Адказ:** Быў, несумненна, складаны. Жыццё маё выпала на нялёгкі перыяд у жыцці майго пакалення і майго народа. Вядома, як жылі беларусы ў санацыйнай Польшчы. Нялёгка было мне як салдату польскай арміі, а тым болей як нямецкаму палоннаму. А ці ж гады партызаншчыны і змагання з акупантам не спалучаліся з клопатамі, турботамі, небяспекай? Усё гэта складанае і цяжкое, але пры гэтым для пісьменніка і творчае. А што датычыцца творчасці, дык і ў ёй не ўсё было гладкім і простым. Ёсць у мяне кнігі, якія напісаны мною і не мною. Маю на ўвазе творы, напісаныя пад уздзеяннем культу Сталіна. Аднак, на шчасце, большасць — гэта тое, чаго не саромлюся і перавыдаю ў чарговых выданнях.

**Пытанне:** Якімі былі вашы апошнія творчыя гады і як выглядае сённяшні творчы дзень?

**Адказ:** Апошняя мая кніга „Сёння і памяць" выйшла два гады таму назад. Цяпер у выдавецтве „Мастацкая літаратура" рыхтуецца мая кніжка „На сцежцы дзеці". Гэта кніга апавяданняў і эсэ. Між іншым, ёсць там эсэ пра Уладзіміра Караткевіча і Рышарда Дабравольскага. Актуальна працую над кнігай, якая яшчэ не мае закончанай формы. Будуць у ёй напэўна мініяцюры, будуць рэмінісцэнцыі, будзе ў ёй успамінальнасць і схільнасць да споведзі. Думаю, што мой узрост забавязвае мяне да рэгістрацыі таго, што бачыў, што перажыў і пры чым быў прысутны. Вось хоць бы такі прыклад. Многа гадоў таму назад мы, маладыя тады літаратары, сустракаліся ў Каралішчавічах з Якубам Коласам. І я з жахам сёння сцвярджаю, што ніхто ўжо, апрача мяне, з прысутных тады не жыве. І толькі я магу сказаць праўду аб той далёкай падзеі. Значыць, маем тут дачыненне з адчуваннем абавязку перад мінулым і

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## I. УЗНІКНЕННЕ І РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ.

### 3. Помнікі пісьменнасці Вялікага княства Літоўскага — працяг.

На беларускай мове ўзнікла і развівалася багатая літаратура. Да нас дайшло каля 600 кніг т.зв. Літоўскай метрыкі — помніка дзелавой пісьменнасці канцылярыі Вялікага княства Літоўскага. Прыкладамі заканадаўчых дакументаў з'яўляюцца: Судзебнік караля Казіміра Ягелонавіча (1468), Статут Вялікага княства Літоўскага (1529, 1566, 1588).

Сярод літаратурна-мастацкіх твораў на беларускай мове ёсць арыгінальныя творы: празаічныя — „Ліст да Абуховіча“, „Прамова Мялешкі“ і вершаваныя — вершы Сімяона Полацкага, Андрэя Рымшы, ёсць таксама і пераклады з іншых моў: з польскай — „Гісторыя пра Атылу“, з сербскай — „Аповесць пра Баву“.

Багатае летапісанне і хронікі XV — XVII ст. ст. Летапісы называюцца літоўскімі, або літоўска-беларускімі, а іх мова — беларуская. Прыкладам ёсць Баркалабаўскі летапіс (канец XVI — пачатак XVII ст.) і дзённік Фёдара Еўлашэўскага.

Сярод помнікаў рэлігійнай літаратуры варта адзначыць: „Страсці Хрыстовы“, „Аповесць пра трох каралёў-валхвоў“, „Жыццё Аляксея — чалавека божага“ (XV ст.), „Казанні Кірылы Ерусалімскага“ (XVI ст.). У XVI ст. Ф. Скарына пераклаў і надрукаваў больш 20 кніг „Біблії“, да якіх напісаў прадмовы і пасляслоўі, С. Будны — „Катэхізіс“, В. Цяпінскі — „Евангеліе“.

Пачалі ствараццa і лінгвістычныя працы; у 1596 г. — „Грамматіка словенска“ Л. Зізанія, у 1619 г. — „Грамматики Словенския правильное синтагма“ М. Смятрыцкага; у 1596 г. быў надрукаваны слоўнік Л. Зізанія, у 1627 г. — слоўнік П. Бярынды.

Гісторыкі мовы заўважаюць, што ў перыяд Вялікага княства Літоўскага ў мове старажытных помнікаў выступалі дзве тэндэнцыі: першая — імкненне захаваць традыцыйныя прыёмы пісьма, традыцыйную графіку і арфаграфію з перыяду Кіеўскай Русі; другая — усвядомленая ці неўсвядомленая перадача асаблівасцей жывой старажытнай беларускай мовы.

У гісторыі беларускага пісьменства выступаюць тры графічныя сістэмы: кірылаўская (кірыліца), лацінская (лацінка) і арабская.

Асноўныя помнікі беларускай пісьменнасці напісаны кірылаўскім пісьмом, якое было традыцыйным і ў перыяд агульнаславянскі, і ў старажытнабеларускі перыяд. Не дайшоў да сённяшніх дзён ніводзін беларускі помнік, напісаны глаголіцай. Літары кірылаўскага алфавіта паступова перайшлі ў беларускі: некаторыя літары працягвалі ўжывацца без змяненняў, іншыя змяняліся або знікалі, узнікалі новыя літары ці ўмоўныя значкі.

Лацінкай друкаваліся творы пазнейшага перыяду — XVIII — XIX ст.ст., між іншым, „Мужыцкая праўда“ К. Каліноўскага. Нягледзячы на гэтае, у іх адлюстроўваліся фанетычныя і граматычныя асаблівасці беларускай мовы.

Першыя беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом, узніклі, паводле даследчыкаў, не пазней як у сярэдзіне XVI ст. Беларуская мова была мовай татараў, якія паявіліся на Беларусі ў XIV ст. Яны ўжо ў XVI — XVII ст. ст. забылі сваю родную мову і таму карысталіся беларускай, якая такім чынам стала мовай мусульманскай рэлігійнай літаратуры, паколькі „беларускія татары“ трымаліся мусульманскага веравызнання, стала мовай апісання мусульманскіх абрадаў, а таксама мовай свецкай літаратуры: рыцарскіх аповесцей, прыгодніцкіх апавяданняў і інш. Большасць такіх тэкстаў — гэта пераклады з усходніх моў: з цюркскіх і арабскай. Мова гэтых тэкстаў вельмі блізкая да жывой народнай беларускай мовы, вельмі часта больш блізкая, чым мова беларускіх помнікаў, напісаных кірыліцай.




Ад Валянціны (1941 года нараджэння) і Сямёна (1940 года нараджэння) Лукшаў, спевакоў з калектыву „Сямяне“, в. Баб'я Гара гм. Нараўка, запісаў 14 верасня 1987 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

## ЦЯПЕР ГУЛЯЮ Я САМ

**(любоўная)**

Ой, там у полі, у полі,
сцелецца ў полі туман.
Ой, там гуляў казачэнько,
з дзеўчынай у гаю гуляў.*
Яны гулялі, гулялі,
да іх цыганка прышла:

— Дай ты мне, дзеўчына, руку —
праўду скажу табе я.

— А мы цыганам не верым,
мілы кахае мяне.
Выйдзі, цыганко ты, з гаю —
бачыць не хочу цябе.
Ой, там у полі, у полі,
сцелецца ў полі туман.
Раней гуляў я з дзяўчынай,
а цяпер гуляю я сам.

* Трэція і чацвертыя радкі паўтараюцца.

## УЗНАГАРОДА

2 снежня былі ўручаны штогадовыя ўзнагароды Навуковага сакратара Польскай акадэміі навук. Сярод узнагароджаных ёсць і наш чытач, некалі актыўны супрацоўнік, дац. д-р габ. Ежы Альшэўскі з Белавежы. Ён атрымаў узнагароду за работу „Роля лясных экасістэмаў у мадыфікацыі мясцовага клімату Белавежскай пушчы“.

Белавежская пушча — адзіная ў Еўропе. Яна многім розніцца ад іншых лясоў, між іншым, і кліматам — тут выступае Белавежскі мікраклімат.

Цяпер дац. Альшэўскі кіруе Кафедрай метэаралогіі і біякліматалогіі ў Інстытуце геаграфіі Вышэйшай педагагічнай школы ў Кельцах. Дац. Альшэўскі, калі толькі не бывае ў Беластоку, заўсёды наведвае рэдакцыю. Абяцаў напісаць нам аб клімаце Белавежы і аб тым, як можна пры дапамозе самой прыроды змяняць клімат. **(вв)**

**ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА**




Дарога доўжылася. Ехалі ўжо другі тыдзень і столькі ж часу знаходзіліся безупынку ў перапоўненых вагонах, не ведаючы, куды і дзеля чаго іх вязуць. Найбольш балюча гэтае нечаканае вандраванне перажывалі дзяўчаты.

— Вядома, хапіла, каб адна з нас заплакала, ці хаця б голасна ўздыхнула, дык ужо і цэлы вагон запаўняўся плачам і енкам. Клікалі мы на дапамогу сваіх мам і татаў, хоць ведалі, што засталіся яны далёка і ніхто нам ужо болей не паможа...

Так свае тадышнія перажыванні прадстаўляе мне **Данута Свідэрская**, зараз па мужу **Ліпская.** У чэрвені 1941 года была яна 11-гадовай дзяўчынкай са шматлікай, дзесяціасабовай сям'і. Бацька, Аляксандр Свідэрскі, быў школьным возьным, як тады гаварылася, у славутай беластоцкай гімназіі імя караля Зыгмунта Аўгуста, што і цяпер яшчэ знаходзіцца на вуліцы Варшаўскай.

Маці, Юзэфа, займалася хатняй гаспадаркай і васьмёркай сваіх дзяцей. Данка была пятым па чарзе божым дарам. Жылі ў невялікім службовым памяшканні на тэрыторыі гэтай жа гімназіі, і ўсе дзеці Свідэрскіх з раніцы да вечара знаходзіліся сярод гімназістаў. Гімназісты былі для іх нянькамі, выхавацелямі і сябрамі па гульнях.

— Аднойчы, — успамінае пані Данута, — прыглядалася я гульні польскіх гарцэрак. Яны практыкаваліся ў кіданні нажамі, гарцэрскімі „фінкамі“, у цэль. Адзін з гарцэраў, хіба дзеля дзікага жарту, замахнуўся ў мой бок. Нож ён не шпурнуў, затрымаў у далоні, але я так перапалохалася, што трапіла ў нервовае расстройства. Давялося клікаць лекара... З таго часу я засталася слабой, баязлівай дзяўчынкай...

Менавіта тады, дзеля падратавання здароўя, накіравалі яе ў піянерскі лагер у Друскеніках, дзе сваю летнюю рэзідэнцыю, калі яшчэ жыў, меў нават сам маршалак Юзэф Пілсудскі. Так рашылі бацькі, бо фактычна пуцёўку ў піянерскі лагер атрымаў яе брат Янка, на два гады старэйшы. Ён плакаў, не хацеў уступіць, бо яму самому марылася пабываць у лагеры. Быў ён тады 13-гадовым юнаком і здаўна насіў у сэрцы нязбыўную мару перажыць штосьці цікавае, незвычайнае. Жывучы ў школе, Янка з зайздрасцю наглядаў за ганарыстымі гарцэрамі, якія хваліліся сваімі паходамі і прыгодамі. Савецкая ўлада, замацаваная ў Беластоку восенню 1939 года, стварыла рэальныя шанцы пабываць у летніх лагерах усім дзецям.

— Ты паедзеш цераз год, а цяпер трэба падмацаваць нашу Данку, — рашуча распарадзіўся бацька, і так мусіла быць. Паехала Данка, і гэтая яе паездка задоўжылася да чатырох гадоў. Калі летам 1945 года яна шчасліва вярнулася ў свой родны Беласток, брат Янка, тады ўжо 17-гадовы юнак, моцна, моцна яе пацалаваў ды падзякаваў:

— Здаецца, ты мяне выручыла ад гэтага далёкага бадзяння па свеце. Хто ведае, што магло б здарыцца са мною...

— Некаторыя старэйшыя хлопцы, — адказала яму сястра, — якія былі разам з намі, вымушаны былі працаваць на заводах, а некаторыя нават паспелі паваяваць. Адны падаліся ў армію Андэрса, а іншыя, якіх раней не пусцілі, накіраваліся да Берлінга...

Сям'я Свідэрскіх выйшла з вайны без затрат, хаця розных жахаў і хваляванняў гэты змрочны час ім таксама не па-

*Маладзёжная камісія Польскага саюза філатэлістаў арганізуе і развівае сваю дзейнасць сярод школьнай моладзі. Інструктар да спраў маладзёжнай філатэлістыкі Беластоцкай акругі гэтага саюза Станіслаў Лапуць утрымлівае з „Зоркай“ ужо даўно пастаянны кантакт. А „Зорка“, як вядома, атрымлівае многа адрасоў дзяцей з Савецкага Саюза, якіх не ў сілах змясціць на сваіх старонках. Вялікую горбу такіх адрасоў разам з канвертамі з усіх бакоў СССР (Растоў-на-Доне, Архангельск, Данецк, Шахты, Мурманск) мы перадалі сябру Лапуцю, а ён іх даў у школьныя гурткі філатэлістаў у беластоцкіх школах. Расказваў, што дзеці нарасхват паразбіралі ўсе адрасы і прасілі яшчэ. Адкрылася, значыць, для нас новая магчымасць знаёміцца, пашыраць перапіску моладзі СССР і Польшчы. Радасны гэта факт, калі дзеці так хочуць перапісвацца і дружыць.*

*„Зорка“ папрасіла Станіслава Лапуця напісаць артыкул аб маладзёжнай філатэлістыцы. Яго артыкул друкуем ніжэй.*

✲

Філатэлістычныя замілаванні маладых мы выкарыстоўваем у выхаваўчай працы. Фармуем рысы характару і волі такія, як: вытрымлівасць, сістэматычнасць, акуратнасць у працы. Таксама развіваем зацікаўленні вучняў да гісторыі, геаграфіі. Ва ўсім гэтым вельмі і вельмі памагае збіранне паштовых марак, так званая філатэлістыка.

Мы заахвочваем моладзь збіраць і камплектаваць паштовыя маркі Народнай Польшчы, СССР і краін народнай дэмакратыі.

Верым, што паможа вам гэта, дарагія маладыя сябры, лепш пазнаёміцца з жыццём сваёй краіны і краін нам прыязных, паможа развіваць і ўмацоўваць патрыятычныя і інтэрнацыяналістычныя пачуцці.

Філатэлістыка ўжо даўно стала папулярнай. Яна займае першае месца сярод усяго іншага калекцыянерства. А гэта таму, што: 1 — паштовая марка, ці іншыя філатэлістычныя каштоўнасці, як паштовыя пячаткі, касоўнікі, датоўнікі, лісты, паштоўкі і канверты — найбольш даступны; 2 — кожная паштовая каштоўнасць па-свойму фарміруе пачуцці прыгожага і эстэтычнага, бо кожная паштовая марка — гэта мастацкі твор, іх праектуюць і выконваюць выдатныя мастакі; 3 — зборы паштовых марак і іншых паштовых каштоўнасцей складаюць цікавую энцыклапедыю ці хроніку чалавечых пошукаў і яго




гістарычнай дарогі, бо кожнае важнае здарэнне ці факт знаходзяць сваё адлюстраванне ў паштовых выданнях.

А цяпер крыху інфармацыі аб маладзёжнай філатэлістычнай камісіі пры Акруговым праўленні Польскага саюза філатэлістаў у Беластоку.

Камісія гуртуе маладых актыўных філатэлістаў у сваіх гуртках. Кожны год мы прымаем удзел у агульнапольскім маладзёжным філатэлістычным конкурсе, які адбываецца ў трох этапах: чвэрцьфінал у гуртку, паўфінал — у акрузе і фінал — цэнтральны. Наша моладзь актыўная на ўсіх трох этапах.

У нашай моладзі ёсць багатыя зборы, якія яны паказваюць на акруговых, краёвых, а нават заграчных выстаўках. У нашай акрузе ёсць 57 атэставаных збораў маладых філатэлістаў, многія з іх атрымалі на выстаўках бронзавыя, сярэбраныя і пазалочаныя медалі.

Моладзь, згуртаваная ў філатэлістычных гуртках, вельмі ахвотна кантактуецца са сваімі равеснікамі з Польшчы і з-за мяжы. Напрыклад, маладзёжны гурток № 78 у Сейнах мае кантакт з моладдзю з Літоўскай ССР, а гурткі з Беластока перапісваюцца з моладдзю іншых рэспублік Савецкага Саюза і Балгарыі.

Праўленне акругі ПЗФ у Беластоку мае пастаянныя і цесныя кантакты з філатэлістамі ў Вільне. Супрацоўнічаем у абмене і супольна арганізуем філатэлістычныя выстаўкі.

У апошні час мы атрымалі ад рэдакцыі „Нівы“ звыш ста пісем ад хлопцаў і дзяўчат з Савецкага Саюза. Кожны з іх просіць памагчы наладзіць перапіску з польскімі сябрамі. Усе гэтыя пісьмы мы перадаем маладзёжным філатэлістычным гурткам нашай акругі. Нашы філатэлісты адразу і пачалі адпісваць на атрыманыя адрасы сваім новым калегам з Савецкага Саюза. Можам смела сказаць, што гэтак мы на практыцы рэалізуем лозунг, што паштовая марка вучыць, дапамагае і набліжае народы.

Хто хоча наладзіць перапіску з моладдзю ў нашых філатэлістычных гуртках, просім прысылаць да нас свае адрасы і пісаць аб сваіх калекцыянерскіх зацікаўленнях — што збіраеце і што хочаце збіраць.

Наш адрас: Polska, Młodzieżowa Komisja Filatelistyczna, Zarząd Okręgu PZF, 15-549 Białystok, ul. Warszawska 2, tel. 317-20, Instruktor Komisji Młodzieżowej.

**Станіслаў Лапуць**



**На роднай зямлі. Капліца з XVIII ст. у Бранску. Фота М. Гайдука.**

# ПАРНАСІК

чытальніцкая літстудыка
на негарантаваных палях

## ПАЭЗІІ

Паэзія — ты маё натхненне!
Паэзія — ты мая душа!
Пішу свае думкі ў радкі —
Вось мая тэма і творчасць.
Люблю цябе, паэзія, —
Шыр зямлі і прыроды,
Паветра, што коціцца
ў далячынь.
Паэзія любімая мая,
Чаму ты ўцякаеш ад мяне?
Чаму я не магу з табой ісці?
Надарэмна я ўкрадаюся
У твае жыццёвыя поспехі,
Надарэмна мне, паэзія,
Ісці з табой...

**Валянціна Дзенісюк**

скупіў. Пра Данку сям'я нічога не ведала, другую — старэйшую дачку — гітлераўцы пагналі на працу ў Германію. Апынулася яна ў тадышнім Кенігсбергу, які цяпер называецца Калінінградам.

— Што вы запамяталі з пабыўкі ў піянерскім лагеры ў Друскеніках? — пацікавіўся я.

— Што? — задумалася пані Данута. — Перш за ўсё запамятала я прасяную кашу ды какао. Да сёння не магу цярпець гэтых прадуктаў, так яны мне тады абрыдлі, асабліва гэтая прасяная каша, такая густая, на масле. Памятаю, што наша сталоўка памяшчалася на прасторнай, прашклёнай верандзе. Навокал вабіла вочы цудоўная прыгажосць, зялёныя дрэвы, кветкі, песні птушак, а мы — на гэтай верандзе, і прымушаюць нас есці прасяную кашу. Сам дырэктар, Самуіл Маркавіч Пеўзнер, бярэ вось мяне на калені... Ён вельмі ж добра адносіўся да дзяцей, да нас усіх, асабліва да наймалодшых. „Кушай, дитятко, кушай, кашка хорошая, здоровая“, — пераконвае, а я ледзь разумею, што ён гаворыць па-руску, бо я з польскай сям'і, дома мы выключна гаварылі па-польску. І слёзы заліваюць вочы, і я ўжо нічога не бачу, хацелася б уцячы да мамы, дадому...

Мы сядзелі ў рэдакцыйным пакойчыку, мой мікрафон лавіў яе словы. Але пані Данута замоўкла і прыкрыла далонню вочы.

— А яшчэ я назаўжды запамятала, — пасля кароткага маўчання працягвала яна крыху зменены, больш усхваляваным голасам, — дзень, калі нечакана давялося нам пакінуць Друскенікі. На досвітку разбудзілі нас старэйшыя сяброўкі, з суседняй спальні. Мы пачулі крык, лямант і трывожныя галасы. Было яшчэ рана, не хацелася ўставаць, але трывога ўжо ахапіла і нашу залу. Пачалі мы перапытваць адзін другога, што здарылася. І тады дзяўчынка з суседняй залы апавясціла:

— Чаго ж вы яшчэ спіце?! Вайна!

Данка Свідэрская і яе маленькія сяброўкі не надта ж разумелі ўсяго жаху гэтага слова. Праўда, памяталі яны ўжо 1939 год, калі ў палавіне верасня немцы захапілі Беласток, каб пасля адступіць яго чырвонаармейцам, але тады вялікіх баёў за гэты горад не было. З яе сям'і ніхто ў войску не служыў і нікому не сталася аніякая крыўда. Дык навошта зараз палохае іх гэтая сяброўка? Тут жа з'явіліся піянерважатыя і выхавацельніцы, пачалі супакойваць, завяраць, што аніякай вайны няма, што гэтыя выбухі толькі ад манёўраў. Пад вечар піянерважатыя аб'явілі, што ў праграме выхаваўчай работы прадбачваецца начны паход пад поўнай нагрузкай, які закончыцца супольным урачыстым вогнішчам. Неабходна забраць з сабою ўсе свае асабістыя рэчы, ды яшчэ коўдру і навалачку з падушкі. Дзеці спярша не ведалі, дзеля чаго гэтыя навалачкі. Справа выяснілася тады, калі кухаркі пачалі грузіць у іх цукар, каўбасы, сала, хлеб ды іншыя прадукты. На долю кожнага дзіцяці давялося па некалькі кілаграмаў.

— Зручнага рукзака, на жаль, я не мела, — успамінае пані Данута. — Бацькі далі мне на дарогу цяжкаваты чамадан. З гэтым чамаданчыкам, коўдрай ды навалачкай, запоўненай прадуктамі, давялося мне ісці цераз лес. Я адставала, падала, сіл і рук не хапала, каб з усім гэтым справіцца. Урэшце-рэшт заплакала, што далей ісці не магу. Тады нехта са старэйшых злітаваўся нада мною...

І так яны дабраліся да друскеніцкага вакзала. І сапраўды сустрэлі там аграмаднае вогнішча, якое далекавата, недзе на даляглядзе, гарэла на фоне цёмнага неба, а зямля стагнала ад выбухаў...

Усе вагоны шчыльна абселі ўцякаючыя людзі.

— Мяне хтосьці ўвапхнуў цераз акно, — успамінае пані Данута. — Памятаю, што апынулася я на каленях у нейкага вусатага чыгуначніка. Сяджу і плачу, свету ад слёз не бачу. Раўлі мы ўсе, як апараныя, як са скуры абдзертыя. Гэты чала-

**(Працяг на стар. 8)**




### ПАРАСЯ ПЕЧАНАЕ

На парасятка вагой 3,5 кг трэба ўзяць паўтары шклянкі грэцкай кашы, 100 г саланіны, 2-3 цыбуліны, тлушч, соль.

Парася асмаліць над агнём, дакладна ачысціць і памыць. Пражаную грэцкую крупу перамяшаць з кавалкамі саланіны і цыбулі, крыху падсмажанымі. Парася фаршыраваць, зашыць яго, палажыць на бляшку, добра змазаную шмальцам і ўставіць у духоўку. Калі будзем пячы, парася трэба час ад часу пераварочваць, дадаючы крыху вады. Падаючы на стол, парася парэзаць на кавалкі (выняўшы перад гэтым ніткі) і паліць тлушчам.

### ГУСІНАЯ ШЫЙКА

На 1 гусіную шыйку трэба ўзяць паўшклянкі грэцкай крупы ці панцаку, гусіную пячонку, 50-80 г тлушчу, паўцыбуліны, 1 пятрушку, лаўровы лісток, перац, соль.

Гусіную шыйку асмаліць, ачысціць, памыць і нацерці перцам і соллю. Падпражыць грэцкую крупу або панцак, змяшаць з дробна нарэзанай і падсмажанай цыбулькай і кавалкам гусінай пячонкі. Палажыць гэты фарш у шыйку і зашыць з абодвух бакоў. У каструльку дадаць крыху вады і дробна нарэзаную пятрушку, цыбулю і лаўровы лісток, на гэта палажыць гусіную шыйку, накрыць каструлю пакрыўкай і ўставіць у духоўку.

### МАЧАНКА

На 250 г свініны і 200 г каўбасы трэба ўзяць 2 цыбуліны, 100 г саланіны, паўтары-дзве лыжкі мукі, лаўровы лісток, сэлер, соль.

Свініну і каўбасу нарэзаць кавалкамі і падсмажыць. Муку (пшанічную ці ячменную) развесці халоднай вадой, пасля чаго ўліць у кіпячую ваду, мяшаючы, пакуль не зробіцца рэдкая падліўка. Дадаць лаўровы лісток, сэлер, соль, дробна нарэзаную і падсмажаную цыбулю, а таксама кавалкі саланіны, свініны і каўбасы і ўставіць на паўгадзіны ў духоўку. Падаваць мачанку з блінамі ці варанай бульбай.

**Гаспадыня**

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W nawiązaniu do notatki prasowej zamieszczonej w tygodniku „Niwa" oraz wystąpienia Redakcji z dn. 5 listopada 87 r. dotyczącego jakości wędlin produkowanych przez masarnię PSS w Bielsku Podlaskim niniejszym informujemy, iż ze strony Oddziału Wojewódzkiego „Społem" CZSS w Białymstoku przeprowadzone zostało postępowanie wyjaśniające, w wyniku którego ustalono co następuje:

W masarni PSS w Bielsku Podlaskim każda partia wędlin przed przekazaniem do sprzedaży oceniana jest przez pracowników odbioru jakościowego i w zależności od wyników tej oceny kwalifikowana jest do I-szej względnie II-ej klasy jakości. Niezależnie od tego jakość wędlin oceniana jest przez kontrole zewnętrzne tj. PIS i PAR, PIH jak również przeprowadzane są badania laboratoryjne na zawartość wody, soli i tłuszczu.

W okresie 9-ciu m-cy przebadanych zostało 271 partii wyrobów gotowych, z tego 5 partii nie odpowiadało wymogom I klasy jakości co stanowi 0.5% ogółu partii.

Jest to wskaźnik niski, świadczący, iż zdecydowana większość produkowanych wyrobów odpowiada wymogom I-szej kl. jakości.

W strukturze produkcji wędlin w III-m kw. br. kiełbasa „bytomska" stanowiła 10,1% ogółu produkcji wędlin. Każda jej partia poddawana była ocenie i nie było przypadku zakwalifikowania jej do II-ej klasy jakości.

Masarnia PSS w Bielsku Podlaskim była wielokrotnie wizytowana w br. przez Specjalistę d/s prod. masarskiej n/Oddziału a w trakcie tych wizytacji korygowany był przebieg niektórych procesów technologicznych. Nie stwierdzono jednak rażących przypadków naruszania norm technologicznych. Stąd też uważamy, iż opinia wyrażona w notatce i piśmie jest raczej subiektywna.

W celu wyeliminowania jednak i tego typu przypadków powyższą sprawę omówiono z Zarządem PSS w Bielsku Podlaskim, kierownictwem masarni oraz bezpośrednio z załogą tego zakładu.

**inż. Grzegorz Prokopczyk**
wiceprezes Zarządu

## ДАНЧЫНЫ СЛЁЗЫ

**(Працяг са стар. 7)**

век ласкава прытуліў мяне да сваіх грудзей і штосьці добрае гаварыў, суцяшаў і супакойваў. А я забыла пра ўсё, не ведала, дзе прапаў мой чамаданчык, дзе навалачка з харчамі. Толькі плакала і маму клікала... Хтосьці іншы гэтыя мае рэчы запхнуў у скрыню пад ніжняй полкай. Праз многа дзён, калі дакучаў нам голад, мае сяброўкі, на радасць, знайшлі і гэтыя прадукты. Мы салідарна раздзялілі іх між усімі прысутнымі. І зноў я расплакалася, але на гэты раз ад нечаканай уцехі...

Бо, сапраўды, доўга давялося ім чакаць сапраўднага абеду. Самуіл Маркавіч Пеўзнер, іх апякун і дырэктар, у сваіх успамінах сцвярджае, што толькі ў Казані, далёка, вельмі ж далёка за Масквою, яго дзецям мясцовыя ўлады наладзілі ўрачысты абед, паднеслі падарункі. Генрык Букерт (яго гісторыя варта прыгодніцкага фільма), таксама дасканала запамятаў гэты абед.

— Як жа ж яго не памятаць! — кажа ён. — Гэта ж першы раз у жыцці давялося мне пабываць у сапраўдным рэстаране. Сядзім мы за сталамі, а афіцыянткі прыпадносяць і першае, і другое, і пітво, і ласункі...

Затым яшчэ ехалі яны на ўсход больш 500 кіламетраў, аж да берагоў Камы, каб спыніцца ў курортным горадзе Сарапуль.

„У Сарапулі дзяцей размясцілі ў загадзя дзеля гэтага падрыхтаваных памяшканнях Дома адпачынку „Настаўнік". Так піша С. М. Пеўзнер. Але гэта ўжо пачатак наступнага раздзела гэтай гісторыі...

**Віктар Рудчык**




Сэрцайка, ёсць у мяне сваячка, якая нарадзілася з заячай губой. Ды так з гэтай заячай губой і засталася — ніякай аперацыі ёй не рабілі. Паколькі гэта мая вельмі блізкая сваячка, я заўсёды баялася, што, калі выйду замуж, то і мае дзеці могуць мець заячую губу. Але, дзякуй Богу, усё абышлося. Я добра выйшла замуж, і дзеткі мае, якіх у мяне двое, нарадзіліся здаровенькія і прыгожыя. Не ведаю, што будзе далей і ці не перадасца гэты дэфект калі-небудзь на іх дзетак, але я пакуль што шчаслівая.

Але вось што здарылася ў апошні час. Уяві сабе, Сэрцайка, што мая сваячка з заячай губой знайшла сабе мужа! І муж таксама з такой жа губой! Дзе яна, здаецца, яго і вынайшла?! Я спачатку пачала дзіка рагатаць, а пасля падумала: Божа, Божа, ці ж вы разумныя людзі?! Ці ж вы маеце нейкі рассудак? Навошта вам гэты шлюб? Вы ж ведаеце, што і дзеці народзяцца такія, як вы. Навошта вам усё гэта?! Гэта ж грэх такі бярэце на душу, ведаючы заўчасу, што робіце благое. Я б наогул, каб была ў нейкіх уладах, забараніла жаніцца ці выходзіць замуж людзям хворым ці з нейкімі дэфектамі — яны ж пагражаюць нашаму здароваму грамадству, прынамсі як нейкая халера. І вось цяпер я са страхам думаю, якое будзе іхняе дзіця, бо ўяві сабе, Сэрцайка, што яны ж плануюць дзіця і то нават у хуткім часе. А ці ты згаджаешся са мною?

**Ася**

Ася! Наогул не згаджаюся з табою. Ты б з гэтымі нешчаслівымі людзьмі ахвотна расправілася па-спартанску. Ведаеш жа, пэўна, што ў старажытнай Спарце старых і хворых людзей проста кідалі са скалы ў мора, ачышчаючы такім чынам сваё грамадства. Заставаліся толькі людзі здаровыя і моцныя.

Нешта накшталт гэтага прабаваў у свой час увесці і Гітлер, прапагандуючы, эўтаназію і „ачышчаючы" сваю арыйскую расу. А павінен быў зрабіць зусім інакш: павінен быў перш за ўсё ачысціць сваю расу ад гэтакіх вар'ятаў, якім быў сам!

Кожны чалавек мае права на асабістае шчасце, хаця б гэта шчасце было кволае і не заўсёды такое шчаслівае. Маю тут, вядома, на думцы людзей хворых, ці з нейкімі дэфектамі. Думаеш, яны гэтага не перажываюць?! Але няхай жа і яны пацешацца тым сваім маленькім шчасцем, якое хоць у нейкай ступені прыцьміць іх незаслужаны боль.

Кожны чалавек мае свае абавязкі перад прыродай. Натура ж стварыла чалавека перш за ўсё для таго, каб пакінуў ён сабе падобнага. Важнейшай ролі ў жыцці чалавека няма. Ён павінен запэўніць працягласць чалавечага роду, вечнасць яго існавання.

Няўжо не заўважыла ты ніколі, што кахаюцца між сабой глуханямыя, сляпыя, што гарбаценькі ходзіць з гарбаценькай, а заячая губа з заячай губою?.. Можа, удваіх ім будзе лягчэй перажыць сваё гора, свае няшчасце. Можа, не так будуць яны заўважаць сваю іншасць...

А зрэшты, што табе да таго?! Няхай кахаюцца, хоць бы былі б гэта заяц з зайчыхаю...

Ды толькі вось бачыш, сыты галоднаму ніколі не спагадаў, і ты абураешся, што яны пажаніліся. А цікава, што б ты сказала, калі б твая дачушка нарадзілася з такой губкай? Ці таксама хацела б, каб яе жыццё прайшло ў маркотнай адзіноце?..

**Сэрцайка**




104

**Сляпень** (бомк) — назойлівае наведанне.
**Сляпы** — небяспека.
**Смага** — дарэмныя намаганні, работа; задаволіць, натоліць яе — цябе чакаюць турботы.
**Смажаніна** — вялікае засмучанне; есці — прыгожая будучыня; нарыхтоўваць — запрашэнне.
**Смажыць** — запрашэнне ў гасціну.
**Смактаць** — выкарыстанне маёмасці.
**Смала** — несправядлівасць; забрудзіцца ёю — трапіш у непрыстойную кампанію.
**Смарагд** (каштоўны камень зялёнага колеру) — багацце і шчасце.
**Смаркач** — будзь асцярожны(ая).
**Смаўжы** (слімакі) есці — добрая звестка; бачыць — павольнае павелічэнне даходаў.
**Сметнік** — павелічэнне дабрабыту.
**Смерць** бачыць — доўгае жыццё.
**Смерч** (паветраная труба) — шчаслівыя часы.
**Смецце** — пасля няўдач настануць лепшыя часы.
**Смок** — непрыемнае палажэнне, стан.
**Смурод** — благая кампанія.
**Смутак** — лёгкае пацяшэнне.
**Смык** (да скрыпкі) — падабаешся.
**Смятана** — вялікі даход або вялікая спадчына; піць — удача.
**Смяяцца** — благі настрой цябе пакіне; бачыць, як смяюцца — непрыемнасці; чуць смех — непрыемнасці.
**Снег** падае — лёгкае захворанне; у гарах — мусіш пераадолець шмат перашкод, пакуль даб'ешся свайго; брысці па ім — праследаванні; снежныя гурбы, заносы — засмучанне.

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЗІМА



Дарога ў Белавежскай пушчы зімой.

Спрабуйце апісаць яе. У апавяданне ўвядзіце жывых герояў — лясных звяроў. Цікавыя апавяданні надрукуем.

**Фота Я. Чэрнякевіч**

## Пішуць школьнікі

**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, „ЗОРАЧКА“!**

Піша да Цябе вучаніца старэйшага класа (VII) з Пачатковай школы ў Гародчыне — Ёля Саковіч.

Я хачу расказаць Табе, „Зорачка“, аб нашым класе.

Наш клас малы, у ім толькі 5 вучняў (дзяўчынкі і адзін хлопец). Усе мы вывучаем беларускую мову. Беларускую мову я вывучаю шосты год. На ўрокі беларускай мовы я і цэлы клас прыходзім з ахвотай. Мы чытаем казкі і легенды. Раз у тыдзень мы чытаем „Ніву“, а ў ёй найчасцей „Зорку“ і „Вясёлы куточак“. На ўроку таксама вывучаем беларускія песні (напр. калектыву „Дубіны“).

На ўроку беларускай мовы мы чыталі аб перапісванні кніг. Даведаліся, што калісьці кнігі людзі перапісвалі ўручную, а пісалі на пергаменце.

На нашых беларускіх уроках

**(Працяг на стар. 10)**

На школьную сцэну

**Пятрусь Броўка**

### НАША ЗМЕНА

**За пакаленнем — пакаленне
Ідзе насустрач новым дням,
Ах, дзеці, дзеці, наша змена,
Як мы зайздросцім сёння вам!
Калі збярэцеся на зборы,
Не бачым большае красы —
Як вы спяваеце бадзёра,
У вас, што ў птушак галасы.**

**Нам невядомыя абшары
У вашых з'ясняцца вачах...
Для вас да зор ляцеў Гагарын,
Да Марса вам адкрыты шлях.
Работы хопіць, піянеры,
Галовам вашым і рукам.
Таму што зробіце вы, —
Верым
І шчыра мы зайздросцім вам!**
**(урывак)**

*

**Са Снягуркай Дзед Мароз
Школы ўсе аб'ехалі,
Раздарылі цэлы воз
Забавак з пацехамі,
Пажадалі дружбы ўсім
І прасілі потым,
Каб ніхто з нас не насіў
Цяжкі мех з лянотай...
У палях — снягоў ірдзень,
Неба ззяе зоркамі,
Новы год да нас ідзе
З новымі пяцёркамі!**
**Васіль Зуёнак**
(З верша „З новымі пяцёркамі“)

У дапамогу вучню

### ВАДЗЯНІК, ДРЫВАСЕК І БАГАЧ

*Заданне: Уважліва пагладзіце малюнкі і дапішыце самі пачатыя сказы гэтай гісторыі (там, дзе кропкі). Смела развівайце сваю фантазію! Па гэтых жа малюнках можаце напісаць і новую, уласную гісторыю пра вадзяніка, дрывасека і багача.*

*Чаму нас вучыць гэтая казка?*



Добры, працавіты дрывасек пайшоў у лес, каб...... І сталася, што сякера зляцела з тронка і......



Сядзіць дрывасек сумны і...... Раптам з вады вынырнуў...... — Чым заклапочаны? — запытаў...... Дрывасек расказаў вадзяніку, што......



— Я мусіць знайшоў тваю згубу, — сказаў вадзянік...... паказваючы сярэбраную...... Гэта не мая! — адказаў...... Мая была простая......



Нырнуў вадзянік зноў і выплыў з залатой сякерай. — І гэта не мая! — сказаў...... Мая была...... За сумленнасць вадзянік аддаў дрывасеку ўсе......



Даведаўся пра гэта багач і...... кінуў у возера тры свае жалезныя сякеры...... а сам сеў і плача. Захвалявалася вада ў возеры і...... з трыма залатымі сякерамі. — Твае? — запытаўся... — Мае! Мае! — Пацягнуўся багач да золата і...



Ледзь выбраўся з вады. Страціў залатыя...... Схапіў свае жалезныя і папёр...... З таго часу больш ніколі не хадзіў на возера.

(Пав. час. „Советский Союз“)

## ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. К. Лібкнехта, 118, кв. 34. Вера Панамарова, 8 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 2, кв. 2-А. Лена Жукоўская, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 106, кв. 25. Анжэла Барычэўская, 4 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 106, кв. 30. Каця Бабковіч, 7 клас.

* * *

БССР, 222395, Мінская вобл., Мядзельскі р-н, к.п. Нарач, вул. Ленінская 1-10, Прыседская Оля, 5 кл.

* * *

БССР, 222320, Мінская вобл., Маладзечанскі р-н, п. Краснае, вул. Камсамольская д. 5, кв. 5, Жалнеровіч Святлана.

## Вясёлы куточак

Коля адкрыў кран, а з яго цячэ брудная вада.

— Мама, гэта вада з Чорнага мора? — пытаецца.

*

— Назаві свайго самага лепшага чатырохногага сябра, — гаворыць настаўнік Алесю.

— Ложак, — адказвае той.

*

— А цяпер адкажы, Вася: чаму мядзведзь зімой лапу смокча?

— Таму, што за лета ў ёй сабралася многа мёду.

*

— Мама, якую ты мне дасі сёння кашулю? З доўгімі рукавамі ці з кароткімі?

— А чаму ты пытаешся?

— Каб ведаць дакуль рукі мыць.

*

— Ты чаму, унучак, так рана прачнуўся?

— Хачу даўжэй у цябе пабыць, бабулечка!

(Працяг са стар. 9)


## Пішуць школьнікі

мы пазнаем жыццё і творчасць слаўных пісьменнікаў. У мінулым годзе ў нашу школу прыязджаў беларускі паэт Алесь Барскі. Ён чытаў нам свае вершы.

Кожную суботу я слухаю з Беластока перадачы па радыё на беларускай мове.

Дарагая „Зорачка", я хачу мець новых сяброў. Прашу, дай мой адрас у куточку „Пазнаёмімся". А Табе шлю сардэчныя пажаданні ўсяго добрага.

**Еля Саковіч**

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ

Я вучаніца Нікальскай васьмігадовай школы. У гэтым годзе мы сарганізавалі Клуб інтэрнацыянальнай дружбы „Равеснік". Я вельмі хачу весці з вамі дружбу і перапіску.

У нашым клубе дзейнічае чатыры секцыі: „Мая Радзіма СССР", „Твой равеснік за мяжой", „Перапіска" і „Афарміцелі". Члены нашага КІДу стараюцца добра вучыцца, чытаюць газеты, многа грамадска працуюць. Гатовім сябе да жыцця, карыснага для грамадзянства.

Я спадзяюся, што наша перапіска будзе цікавай і мне і вам. Чакаем пісем ад вас.

Адрас: БССР, 222380, Мінская вобл., Мядзельскі р-н, в. Нікольцы, дом 24, **Сёмна Наталля.**

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

Пішa да Цябе вучаніца трэцяга класа Пачатковай школы ў Барысаўцы. На апошнім уроку чыталі мы верш „Залатая восень". Верш мне спадабаўся. Я нарысавала да яго карцінку. Рашыла выслаць Табе яе і напісаць кароткае пісьмо. Ацані мой малюнак.

**Эва Юзвюк, III клас**





Карцінка Эвы. Назвала яе: „Залатая восень у лесе".

### А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



З сумы цыфр, якія паўтараюцца некалькі разоў складзіце суму цыфр, якія выступаюць толькі адзін раз. Значыць, сумы павінны быць роўныя.

### ЗРАБІЦЕ САМІ

Найперш робім ёлку з зялёнай паперы. Вырэзваем шэсць квадратаў (а). Кожны квадрат згінаем як паказана на рысунку (б). Гэтыя фігуры нанізваем на ствол, пачынаючы ад найбольшай. Ствол выстругваем з палачкі. Фігуры ўмацоўваем пластылінам і ёлка гатова.

На іншых рысунках паказана, як рабіць цацкі на ёлку з паперы.

Паспрабуйце ўбраць ёлку сваёй работы цацкамі.




## Славуныя людзі Беларусі

### СВЯТАПОЛК

Князь кіеўскі Уладзімір захапіў Тураўскае княства і каб утрымаць яго пад сваёй уладай у 988 годзе прызначыў яму ў князі дванаццацігадовага сына Святаполка.

Маладзенькі княжыч вельмі ўпадабаў маляўнічую і заможную Тураўскую зямлю і яе людзей — беларускае племя дрыгавічоў. Ён са знатнымі тураўскімі баярамі наведваў самыя адлеглыя мясціны. Вучыўся мірыць перасвараных, караць злачынцаў. Наглядаў і за пабудовай новых умацаванняў, клапаціўся пра бяспечнасць купцоў і іншых падарожных на гасцінцах. А як жа ж любыя былі Святаполку паляванні ў дрымучых пушчах, што прасціраліся тады паўз раку Прыпяць і па яе незлічоных прытоках!

І стаў Святаполк чулым, справядлівым і адважным князем дрыгавічоў. За яго панаванне Тураўская зямля ўзбагацілася і ўзмацнілася. Па рацэ Дняпры, Прыпяці, Мухаўцы і Бузе тураўскія і замежныя купцы прывозілі розныя тавары. Вывозілі вырабы мясцовых рамеснікаў і сялян.

Святаполк пачаў падумваць як вызваліць Тураўскае княства ад цяжкіх данінаў бацьку і стварыць з яго, як раней было, самастойную дзяржаву дрыгавічоў. Пра Святаполкавы намеры зведаў Уладзімір і загадаў схапіць сына з яго жонкай, вывезці ў Кіеў і пасадзіць у турму. Доўгія тры гады яны мучыліся ў няволі. У 1015 годзе памёр князь Уладзімір і Святаполку ўдалося стаць князем кіеўскім. Аднак не надоўга, бо яго перамог родны брат, Яраслаў. Святаполк вярнуўся ў Тураўскую зямлю, сабраў там вялікае войска, заручыўся дапамогай польскага караля Баляслава і ў 1018 годзе выгнаў брата з Кіева. Аднак той зноў здабыў кіеўскі княжацкі пасад. Святаполк адыйшоў у глыб Тураўскага княства і стаў княжыць у заходняй яго частцы — на Пабужжы. Жыў ён з сям'ёю то ў Бярэсці (сённяшнім Брэсце), то ў Дарагічыне (сённяшнім Драгічыне) і збіраў сілы. Аднак сілы былі няроўныя, і Святаполк загінуў у 1022 годзе ў бітве з Яраслававымі войскамі.

Легенда кажа, што на яго магіле ўдзячныя дрыгавічы насыпалі адзін з тых многіх курганоў, якія і да сённяшняга дня відаць на нашай зямлі.

**Мікалай Гайдук**



Срэбная манета (левы і правы бакі) князя Святаполка Тураўскага. Мал. У. Петрука.

## Вучнёўская творчасць

### ЗІМА

Усюды бела, усюды чыста,
Выслаў снег зямлю кругом.
У лесе заяц скача быстры
Сярод зімовых дрэў.

І вавёрка ўжо заснула
У цёплым сваім дупле.
Хоць і вецер вее гулка
Яна спакойная.

А я сяджу каля акна,
Гляджу на белы свет.
Так, за акном маім зіма
У белых рукавіцах...

**Еля Саковіч. VII кл.**
Гародчына

---

З Чаромхі-вёскі „Зорка" атрымала чарговыя ілюстрацыі да казкі „Пяць братоў-цудадзеяў". Свой малюнак прыслала вуч. VI кл. Ірка Алесюк.

А група вучняў з II і III класаў школы ў Плёсках прыслала цэлы пакет цікавых малюнкаў да гэтай казкі, кожны іншы, кожны цікавы. Сардэчна дзякую, дзеткам з Плёскаў. Некалькі надрукуем, іншыя будуць паказаны на рэдакцыйнай „Зорчынай" выстаўцы.

Усім жа дзеткам, якія прыслалі свае малюнкі, вельмі дзякую, што падпісалі іх па-беларуску, таксама і свае імёны і прозвішчы. Усім жадаю на выдатна вывучыць беларускую мову!




Мал. Ірэны Алесюк, Чаромха-вёска.



Мал. Міркa Прахарука, II кл., Плёскі. Малюнак падпісаны „Узвейвецер замкнуў адну ноздру.

# РЭАЛІЗАЦЫЯ

У пятніцу ладны падсвінак зламаў нагу. Загадчыца фермы Нэля Фёдараўна бедавала надоўга. Вечарам падсвінка закалолі, але ха-ладзільнік быў няспраўны, і мяса рашылі прадаць.

— Ну што ж, пачнём рэалізацыю, — калі адшукалі вагі, сказала загадчыца. — І пачнём з галавы. Дурная яна была, не глядзела, куды ногі сунула, але студзень будзе. Хто хоча ўзяць гэтую шалапутную?

У гэты час падышоў вартаўнік, глухаваты на правае вуха дзед Захар:

— Што даюць?

— Рэалізацыя ідзе.

— Што-што?

— Рэалізацыя! — паўтарылі глухому.

— Рабрынкі каму? Цётка Зіна, бярэш? Тут і першае, і другое...

— Чыстая праўда, толькі мне нагу, заднюю... Кумпячок... — папрасіла цётка Зіна.

— Дык жа мы па парадку рашылі. Інакш — якая тут можа быць рэалізацыя? На чарзе — лапаткі, — загадчыца кінула на вагі лапатку. — Сем кіло. Забірайце... А бабе Фені мякенькага сальца для бяззубага рота.

Баба Феня ўсміхнулася — і ўсе ўбачылі, рот у старой сапраўды шчарбаты.

— А гэтую костачку нікому, апроч Акіма, — глядзела Нэля Фёдараўна на даўгалыга слесара. — Падчарэўе каму? — агледзела натоўп загадчыца. — Слой мяса, слой сала. Дзядзька Мікіта, у вас капцільня, няўжо ўпусціце момант? А кішкі? Марфа Агафонаўна, бульбачкі „Тэмп" на тарку надзераце, грэчкі дабавіце, кішку на бляшку — ды ў духоўку. Во будзе смакоцце... Нас паклічаце. Ладна, прынясеце на ферму. Ну, здаецца, усім дала, а сабе... Давядзецца браць, што засталося. Пячонка, паляндвічка... Што ж зробіш, такая наша кіраўніцкая доля...

**Іван Пяшко**



Дыстанцыйнае кіраванне.

# НІЎКА




### ПРЫНЦЫПОВАЯ

На банкеце для прапаўнікоў, якія з'явіліся з сем'ямі, пані Задрыпкоўская пытае суседа:

— Вы шэф майго мужа?

— Не, мадам.

— Дык неадкладна зніміце руку з майго калена.

### СПЕКТАКЛЬ

У час спектакля для вучняў правяраюць білеты.

— Чаму ты, сынок, уціснуўся ў гэты рад? — пытае кантралёр Міколку. — У цябе ж білет на балкон!

— Я тут не сяджу, — з годнасцю тлумачыць Міколка, — я ўпаў з балкона.

### ГЭТА Ж ДАРАЖЭЙШАЯ

Разгневаўся задрыпанец на казу за тое, што не доіцца, завёз на кірмаш аж у суседнюю гміну і там прадаў яе. А ў наступную нядзелю купіў сабе на кірмашы іншую. Прывёў дадому. Толькі на двор, а жонка глянула і аж рукамі пляснула:

— Ой, пампу! Гэта ж наша каза, Іван! Тая сама, якую ты прадаў.

— Не можа гэтага быць? — здзівіўся Іван. — Я ж за гэту заплаціў на шэсць тысяч больш.

### НАДЗЕЯ

— Чаму ты, Пятро, дазваляеш сваёй жонцы з усімі танцаваць? Такая можа зусім ад рук адбіцца і пакінуць цябе.

— А я ўжо некалькі год жыву гэтай надзеяй.



**Памяць не здраджвала яму ніколі. Ён ёй — часта.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Джон вырашыў любой цаной уладкавацца на працу ў шахце і сказаў у канторы, што ўжо працаваў шахцёрам.

— На якой глыбіні вы працавалі? — спыталі яго.

— На рознай. І дзве тысячы футаў, і тры тысячы...

— Скажыце, да якога ліхтара вы найбольш прызвычаіліся?

— Ліхтара? А навошта мне ліхтар? Я заўсёды працаваў на дзённай змене.

*

— А вы ўпэўнены, што гэта сапраўды добрае снатворнае?

— Так, сэр. Мы нават вымушаны да кожнага флакона прыкладаць у камплекце будзільнік.

*

— Дарагі, нарэшце мы выплацілі ўсе нашы даўгі акушэрцы.

— Ага, значыць, дзіця цяпер наша поўнасцю.





— Трэба даручыць каму-небудзь іншаму ўручаць медалі: Енсен ужо надта ж сарамлівы!

З „Весніка Задрыпоніі"

### НАРОДНАЕ — НАРОДУ

Метадам народнага будавання ў кароткія тэрміны была пабудавана дача начальніка Будаўніча-мантажнага ўпраўлення горада Ачуцінава. А. Аблазевіча. Нядаўна пасля суда дачу вярнулі народу. У ёй размясцілася кінаканцэртная зала на 1000 месц.

### НА ВЫСОКІМ УЗРОЎНІ

У выдатнай спартыўнай форме знаходзіцца каманда „Пярун". Асабліва добра глядзіцца цёмна-сіняя майкі фірмы „Пума".



### КАЗА І СТРАКАЗА

Прыйшла Каза да Страказы:
— Дзень добры,
Стра-ка-зу-ля!
— Я не казуля. Ты азы
не ведаеш, ба-бу-ля:
я нават не стракатая,
зусім не барадатая.
Крылатая!
Арлатая!
Я зу-зу-зухаватая!
І друг мой, Стракзёл,
таксама не казёл.
І са стракатымі вачыма
пайшла Каза.
У чым прычына,
што не сябруе Страказа?
Няўжо ў крылатасці краса?
На неба глянуў і Казёл.
Ён згодны быў з Казою:
хоць і лятае Стракзёл,
і п'е нектар з расою, —
карысці з лёгкага крыла,
нібыта малака з казла.

**Сяргей Панізнік**



# Курёзы

### ТЫГР З'ПАД КРЫСА

З заапаркаў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія (ФРГ) за апошнія дзесяць год знікла звыш 400 жывёлін. Нядаўна быў украдзены нават... малады тыгр, на якога пагнаўся дрэсіроўшчык, які выступае з паказам дзікіх звяроў на кірмашах. Як сведчаць кампетэнтныя органы, усе гэты крадзяжы робяць вопытныя злачынцы, у якіх добра наладжаны каналы для збыту ўкрадзенай жывёлы. Асабліва часта крадуць драпежных птушак, за якіх пакупнік гатовы плаціць шалёныя сумы. Першымі ў спіску ахвяр значацца грыфы — птушкі, якія зніклі ў Еўропе. Апрача таго, з заапаркаў укралі ўвогуле 160 крэчатаў, арлоў, сокалаў, беркутоў і соў. Прыхопліваюць зладзеі і папугаяў і нават буслоў. У падпольную гандлёвую сетку трапляюць з заапаркаў розныя віды пітонаў. Каму і навошта могуць спатрэбіцца велізарныя паўзуны, а таксама шэраг іншых жывёлін, — гэту загадку паліцыя дагэтуль не можа разгадаць.




**Пасля таго, як усё стане на свае месца, сёй-той не знаходзіць сабе месца.**